Poczta opłacona Ryczałtem.

Адзін № каштуе 35 гр.

№ 6. | 7 | СЕРАДА, 8- КРАСАВІКА 1925 Г. Год II.



ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.




...Бач...а ну, дастанем школу!

§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§

## МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§

За сталом,у аднэй Віленскай піўной,сядзяць дзьве мужчынскіх хвігуры пры пустых бутэльках.

Адзін з іх ніжэйшы і круглейшы адзначаўся скорагаворкай, ,меў густыя,кучаравыя,ад колькіх дзён не часаныя, валасы;другі быў у сурдуце і Фокстротах,вышэйшы ростам,з малымі, жывымі вочкамі і барodкай.

Сядзелі пры пустых ужо бутэльках.Кучаравы плюваў безпрастанку на падлогу і...нешта дэклямаваў.Ён умеў на памяць некулькі пахабных анекдотаў і.кожны раз,як выпье гарэлкі,апаведаў тое самае, быццам папугай.

Бародка,слухаючы яго рэчы першы, мусіць,раз,дзівіўся гэдак багата адаронпай галаве Кучаравага і,час ад часу усьмехаўся,а калі бяседнік нагібаўся,каб сплюнуць,Бародка падымаў свае фок-астроты і полы сурдута вышэй.

-...Пясок сыпаўся,разумееш ты!-дэклямаваў Кучаравы,-сыпаўся пясок...

Барадка не разумеючы пытаўся:

-Адкуль...чаго...які пясок...

-А...як яны танцавалі...разумееш ты!Нашы-то паслы...

-Ха,ха,ха!..Мусіць боты ня выцерлі уваходзячы на салю?..

-Не,разумееш ты!Ня тут сабака зарыты!,-і ён ,трымаючыся аберучза стол перагнуўся і на вуха шаптаў нешта,мусіць,нецэнзурнае Бародцы.

-Ха,ха,ха!-хахатау той,хапіўшыся за бруха,-Вось дык спрытна!Табе толькі-б рэдактарам быць!

-Я быу!не хачу ужо болі...

-Не не ў газэце,а...ведаеце,свой юмар,сваю сатыру,свой журнал адчыніць...Столькі розуму,столькі нецэнзурных,але прыгожых слоў народ убачыў-бы!..

-Гм...-загаманіў важна Кучаравы,узьдзяючы адначасна пэнснэ с адным пабітым ваконцам,-сатырычны журнал беларускі,разумееш ты,трэба было-б распачаць,толькі грошы...

-Грошы будуць;жодзіць толькі аб назоў...Найцяжэйшая справа з назовам...А грошы есьць.

-Стаў бутэльку,калі грошы есьць.

-Што-ж,за бутэлькай не стане,.. З назовам трудна...

-Ты не бядуй,-назоў маю...Яшчэ дзяцёнкам будучы у Менску я ўжо падабраў,які назоў часапісі даць, разумееш ты!Цягні бутэльку,калі маеш грошы!Выпьем закладзіны першай беларускай сатыры пад назовам ...пасьля скажу.

Заспаная кабета падала ім гарэлку і тухлых рыбных клёцак.Бародка быў пераборлівы і скромны да піцьця і яды,за яго і за сябе Кучаравы жлукціў гарэлку ды паедаў ахвотна клёцкі.

-Ці не прыносяць вам,паня,беларускіх газэт?-пытаў Бародка у гаспадыні.

-А як-жа,былі сягоньня:сын прынёс!

-Цікава...Газэта нат тут...-бурчэў чмякаючы Кучаравы,-а якая?

-Ёсьць „Крыніца" і „Сялянская Доля."

-Гм...Абедзьве дайце сюды!

Праз мінуту бяседнікі пачалі сьлібізаваць газэты.

-Ох ты...чорт падзяры!..

-Ох,Каб цябе пярун,разумееш ты!..

Абодвы наткнуліся на нешта неспадзеванае для іх і прыкрае.

-„Авадзень" ужо абьявіўся,каб яго!..

-Да,падставіў нам нагу,разумееш ты...

Хвіліну маўчалі,чытаючы зціха тэкст абвесткі аб тым,што „Авадзень ужо друкуецца і хутка выйдзе.

Грудзі іхныя хвалявалі моцна падымаючыся высока ўгару;Кучаравы сам,апрыч таго,хіліўся у бакі.

-Ну,прапала!-прышоў у сябе першым Бародка,-іхняе шчасьце!

-Шкада,што мы раней не абдумалі гэтага інтэрэсу.

-Цяпер прапала!Хай ужо працуюць.Падпішэмся на той самы,бо мы. ..

-Ніколі!Я проці яго,гэтага праклятага Авадня!..Ён мне жыцьцё

зламаў!..Каб ня ён-я быў-бы,разумееш ты,..рэдактарам першае...рэдактарам другое...рэдактарам тр.. трэцяе...

Кучаравы лічыў пустыя бутэлькі мешаючы бяз сэнсу да іх словы „рэдактар".

-Вады.гаспадыня,вады!-спалохаўшыся за здароўе Кучаравага крычэў Барадка,трымаючы пад рукі таго... Той яшчэ трылузіў,як праз сон,пералічаючы,колькі апаражніў за ўсё дасюлешняе жыцьцё бутэляк:

-...рэдактарам трыццатае...рэдактарам сотае...рэдактарам стодзевяцьдзесят восьмае...

Гаспадыня нясла ўжо мядніцу зімнае вады.Брызнулі на беднага.

...-Ах...дзе я,разумееш ты?што?.

-Пакінь трылузіць пане...пане...забыўся вашу...пане,як вас?

-Звацъ.мяне? Рэдактар першае беларускае часопісі „Бізун."

-Дык мы празевалі...„Авадзень" раней выляцеў...

-Ах,праўда!Шкада!Ну мы яму будзем падстаўляць нагу,ды шкодзіць.

Барадка быў больш цьвярозым:

-Я табе у гэтым не кумпан,-казаў ён.

Была ужо поўнач,як яны выйшлі на вуліцу.

-Ах,чаму німа „Бізуна"!-уздыхаючы казаў Кучаравы сядаючы на фурманку.

-Бізун ест ў мне,-пацешыў яго вазьніца,і паказаў пугаўё.

-Не аб гэты бізун нам ходзіцьадказаў.

Вазьніца завурчэў у паветры -коні панясьліся.

Каля Завальнай вуліцы,пры кнігарні,жужжалі „авадні",зьбіраючыся адлятаць на вёску.

-Ах,чаму не „Бізуны" замест гэтых пачварак!,-не ўнімаўся Кучаравы.

-Кіньце бядаваць!Добра што Авадні ёсьць,-успакаіваў калега.

Вазьніца жаласьліва адвярнуўся да Кучаравага:

-Мусіць і пан маім рамяслом займаўся,або доўга дзе быў пастухом,што гэдак шкадуеце страчанага бізуна.

-Ня у тым рэч,разумееш ты;я павінен быў зрабіцца рэдактарам...

Вазьніца адвярнуўся і глядзеў ужо толькі на сваіх каней.

А.В.

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

—Некаторыя грамадзяне,ня слухаючы пратэстаў кнігара,чытаюць газэты і,нат,забіраюць з сабой іх,ня плоцячы грошы!

—Гм...Яны мусіць думаюць,што ўсё беларускае друкуецца у свайой-жа друкарні Ф.Скарыны,ад 1525 г.істнуючай,-д-ру Скарыне грошы ужо не патрэбны.

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

## РАДЫ на адварот.

1.Мокрай пагодай,уходзячы да хаты, ногі не выцірай на ганку,а нясі градь у хату.

2.Уходзячы да хаты, сьцюдзёнай пагодай,дзьверы за сабой не зачыняй,а калі маеш прывычку зачыняць, дык лясьні імі так,каб яны саскочылі з завесаў.

3.Ходзячы па вуліцах,асабліва вузкіх,як напрыклад у Вільні,занімай хаднік шырэй і не уступай другім,-хай абходзяць.

4.Ціхаты людзі,наагул,ня любяць,дык старайся у людзёх хадзіць са стукам;калі начуеш,дык абутак ні скідай па далікатнаму,а скідай з грукатам;так сама,ўстаючы раней ад другіх,умей нарабіць стуку,каб сьпячых тры разы перавярнула.

5.Старайся што дзень у госьці хадзіць;выбірай толькі хлебасоль -ных людзей -будзеш сыт і дома дабра не змарнуеш.

А.Г...ч.

щщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщщ

Ці абнавілі Вы падпіску на другі квартал?

§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§

Пачатак вясны у Вільні.









I. Абнялісь...О, Міласэрны!
Да труны ўжо будуць верны...,

2. Праз вакно, восьі з мандолай
Пяе песьні ён ей, квoлай.

3. Каты-ціхае стварэньне
Рамансуюць на здзіўленьне.



§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§
ооооооооооооо
§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§
ооооооооооооо




-Лямпа даўно гатова, толькі трэба газы ды...
-О, каб-жа газы!..

ooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

ПАРАЗУМЕЛІСЯ.

У клюбе, за картачным сталом, да кумпаніі ігракоў садзяцца два заікі, якія пра заіклівасьць адзін аднаго нічога ня ведаюць.

-Пі...пі...пі-пі...пікі!-абвешчае свае казыры адзін.

-Бу-бу...бу-бу...бу-бу...бубны!- -кажа у адказ другі.

-Я...я...з та...з такім ду...ду-ду-р-р-аком б...больш не гуляю!- адказвае першы, устаючы і кідаючы карты аб стол.

Гам-чхі.

---

Хапіў прысмакаў.

-Ведаеш, сваток, як мяне пачаставалі у месьце?

-Ну, ну!

-Зайшоў я у сталовую, а там мне падалі к абеду у шклянацы прысмакаў. От, ліха іх галаве, падумаў я: калі чаго добрага, дык мала даюць. Пасьля як хапіў, дык аж вочы паказеліў...

-Мусіць была гарчыца...

-Хто-ж на гэта спадзеваўся, каб іх пярун!

---

Віншуем усіх са сьвятам Вялікаднёвым і...вясной.

Смачная буcяка.

Улюбіўся,як відаць
Язэп не на жарты:
Па начах пачаў ня спаць,
Стаў хадзіць да Марты.

Марта дзеўка,-пашукаць!
Ды яшчэ-й ткачыха...
Язэп пачаў учашчаць
І кахаць да ліха,

Раз Язэп быў пад хмяльком,
(Трэба вам прызнацца)
Пачаў з Мартаю цішком
Ў хаце цалавацца.

Марта,праўда,як відаць
Буські спадабала,
Стала шчыра іх прымаць
І назад здавала.

А,нарэшце,бьюцца ў кроу...
Гэта дык не дарам-
І дамоў Язэп пашоў
З абадраным тварам.

Алесь.

---

Цягні,цягні!стары гультай...

Біскуп абьяжджаў парахвію ды ў папа Мікалая на цікаву птушку трапіў:папугу-папугая.

Ня тым птушка была цікава,што гаварыць умела,-ей за тое была слава ,што сьвяты песьні пела.

Як запяе хто прыгожа хаця-б сам сабою,птушка зараз і паможа ўтурыць за табою.

Прадаць птушку ў Мікалая біскуп надта просіць;прыход добры абецае той,што усе просяць. Прыкра для папа прыгода,-мусіў птушку даравацць дзеля багатага прыхода,ды,як начальству адказаць!

На трох канях біскуп вертаўся.. ды з хурманом той птах сядзеў.Да усяго ён прыслухаўся і на усе бакі глядзеў.

Хурман каня паганяе:
-Но,но.Ідзі не адставай!
Нарэшце пугаю карае: -Цягні цягні сівы гультай!"

Біскуп прост папаў у неба:птушку важную дастаў!..Каб пахваліцца усім, як трэба,ён гасьцей к сабе пазваў.Госьці сталі к клетцы блізка ,а біскуп і запяяў...то браў высока,то нізка,але птах не памагаў.Біскуп усе выводзіў ноты ды шапнуў :-попка памагай.
А папугай з усей ахвоты:
-Цягні,цягні стары гультай!..

Стары чмель.

---

Чужога не наўчыўся-свае забыў.

Пакуль Раман жыў дома
У роднай мове гаманіў
Але цяпер ужо забыўся
Бо год у польскіх паслужыў.

Прышоўшы ў госьці на Каляды
Ужо ня усіх ён пазнаваў;
Мову родную забыўся
Ўжо па польскаму гукаў.

-Цо."Проша",ды„пшэпрашам".
Цяжка ён язык ламаў
А як дзе ды памыліцца
К....маць тады казаў..

Напаткаўшы ён знаёмых
Пад казыр рукой узяў
І ня проста-па мужыцку,
А па панску ўжо гукаў.

Пачалі яго пытацца:
-Як?Ці што у войску жыць?
А ён,якбы не спазнаўшы,
Казаў:-Проша пафтужыць!"

На гэта яму сказалі:
-Ты пакінь ламаць язык,
Бо карысьць з гэтага мала-
Ты-ж вядомы нам мужык!

Ён свае ўсё не кідае
І,нарэшце,працьвярдзіў,
Што па панску лепш гукае,
Па мужыцку ужо забыў.

Як з ім гутарку канчалі
Сусед з яго й падзівіў,
Што чужога не наўчыўся
Дый свае зусім забыў.

Васіль Гаротны.

У судзе.

Судзьдзя і сьведка-сялянін.
-Цо пан в тэй справе розумеш?
-Якая тут,паночку,ў чорта справа!па нашаму,тая справа,дзе гарэлку пьюць,а яны ўзагрудкі толькі водзяцца!

В.Бох...

---

## Многа дзіву ёсьць на сьвеце.

Многа дзіву ёсьць на сьвеце
Прачытай во у газэце,
Дык даведаешся.
Усё пра роўнасьць нам казалі,
А мы з радасьцю чакалі,
Што настане той час.
Аж нарэшце стала ясна,
што мы цешылісь напрасна
Аж да гэтай пары.
І цяпер яшчэ бывае,
Што нас кожны абіджае:
Ужо ў моду ўвайшло.
Бо і Ізба ўжо Скарбова
Вось пакрыўдзіць нас гатова
За прыкладам другіх.
Глянь у іншых магазынах
Ёсьць партрэты там на сьценах-
Дзела Ізбе німа.
Ў беларускіх дык рыскова,
Бо тады Ізба Скарбова
Не залюбіць таго.
А загадчык разгуляўся
І развесіць пастараўся
У кнігарні сваей
Пару новінькіх партрэтаў
Беларускіх-жа паэтаў
Знамянітых людзей.
Нейкі час гэдак віселі,
Але ўрэшце, надаелі
Яны Ізбе Скарбовай.
Вось чыноўнікаў прыслалі
Пратакол яны сьпісалі,
Знаць-партрэты здымай.
Пасьля доўга не чакалі
Як і штраф плаціць прыслалі,
Што развесіў ня тых.
Дык кнігар пачаў старацца
Пашоў праўды дабівацца
Да вышэйшых чыноў.
Па ўсей Ізбе так бадзяўся
„Нідзе с праўдай не спаткауся",
Так ён с крыўдай казаў.
Ўсе заявы вось прымалі
І плаціць такі казалі,
Хоць і праў ці не праў.
А адзін нават прызнаўся,
што ён зрабіць пастараўся
Ужо ласку сваю.
За што ўдзячным трэба быці,
Што пазволіў гаварыці
І з асобай яго.
„Бо, паверце, што другому
Не дазволіў бы нікому
Гаварыці са мной."
Ды сказаў:-шчасьлівы йдзіце
і нам грошы заплаціце
Гэта-ж мала зісім."
Так прыйшлося і зрабіці
Дзесяць злотых заплаціці
Не вядома за што.
Не лічыўшы амбарасу,
Які стоіў грошы й часу
Куды болей таго.

Б.Дрозд.

Вільня у Студні .

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

### У Краме.

-Проша даць раворваля!
-А паперу маеш на ліворваль?
-Не, панок, у бутэльку.

---

### На судзе.

Судзьдзя-Вы, Няміраха, прайгралі... Дарога павінна быць па вашай зямлі.
Няміраха-Паночку, у мяне план ёсьць і у плане ніякай дарогі німа.
-Дзе твой план?
-Проша, панок!
-Ну дык як-жа! Пакажы, дзе тут дарогі німа?
-Панок. Я-ж нічога ня ведаю, але разумныя людзі казалі, што-німа!

Васіль Г.

### РАЗУМНЫ АТКАЗ.

Приходзіць жыд да рабіна прасіць аб разводзе з жонкай.
-Чым-жаж кепска твая жонка?- пытае рабін.
-Не магу сказаць, бо яна-мая жонка!
Па разводзе рабін пытае яго:
-Ну дык скажы, чым кепска была твая жонка?
-На што я буду гаварыць на яе цяпер яна мне чужая жанчына!

Дык-Дзеля.

---

Ці падахвоцілі Вы сваіх знаёмых, каб выпісалі „А В А Д Н Я"?

„Тожe бѣлорус".



-Господі...Спасі Бѣло...Бѣла... Бѣлую Едіную Недѣлімую Матушку Россію. Гіз.



-Ці ты проці Грамадзкага Голасу"?
-Ня вельмі..."Мне шкада асабліва Косьцевіча:на яго навалівающца,што шышкі на Макара.





ооооооооооооооооооооооооооооооо

Наша Почта.

Матэшуку:Вы самі ня поўны адрэс нам далі;прышліце новую перадплату на паўгода,дык пашлём Вам дарма і першыя шэсьць №№.
ХАНЯЎКУ:Высылаем,што просіце.
Усіх чытачоў,якія не аплацілі яшчэ другога кварталу,гэтым просім абнавіць перадплату|з №7|8 АВАДЗЕНЬ"пашлецца толькі акуратным падпішчыкам.
Рэдакцыя.

ооооооооооооооооооооооооооооооо

Друкуецца і хутка выйдзе у сьвет папулярны беларускі сьпеўнік.


Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:Wilno Завальна 7,пры кнігарні.

ПАДПІСКА:на 3м.1зл.80гр.,на паўгода-3зл.50гр.,на год-усяго 7зл.
За граніцу на год-тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Літ.Маца,вуліца Домброўскага 3,у ВІЛЬНІ.